*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 48(433)** **1 СНЕЖНЯ 1999 г.**

## Прынята на Рэспубліканскай Радзе

У мінулым нумары "Нашага слова" мы паведамлялі, што 21 лістапада адбылася Рада Таварыства, на якой прыняты шэраг дакументаў. Прапануем Вашай увазе план работы на 2000 год (стар. 2) і пастанову "Аб правядзенні Агульнабеларускай навукова-практычнай канферэнцыі "Закон аб мовах -- вынікі і перспектывы". У бліжэйшых нумарах газеты мы мяркуем распавесці і пра планы работы некаторых камісіяў Таварыства. Гэта дапаможа першасным суполкам вызначыцца ў сваёй дзейнасці ў будучым годзе. Згодна з вышэйпамянёным планам ужо накіраваны лісты:

прэм'ер-міністру Беларусі Сяргею Лінгу з прапановай абвясціць 2000 год годам Францішка Багушэвіча і ў адпаведнасці з гэтым распрацаваць дзяржаўную праграму па святкаванні юбілею пісьменніка і ўшанаванні яго памяці;

міністру культуры Аляксандру Сасноўскаму з прапановай надаць імя Францішка Багушэвіча адной з буйных бібліятэк Менска;

міністру адукацыі Васілю Стражаву і старшыні Менгарвыканкама Уладзіміру Ярмошыну з просьбай аб адкрыцці ў Савецкім раёне сталіцы беларускай школы імя Францішка Багушэвіча;

міністру сувязі Уладзіміру Ганчарэнку з просьбай уключыць у планн 2000 года выпуск паштоўкі і канверта з арыгінальнай маркай да 160 годдзя з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча.

***Ірына Марачкіна.***

**КАСТУСЬ ТАРАСАЎ**

## "Гістарычнае падарожжа для дзяцей"

*Старадаўняя Беларусь знаходзіцца ў мінулым часе. Трапіць туды можна толькі ў думках. Але навошта юнаму чалавеку падарожнічаць ў мінуўшчыну, калі ягонае жыццё — наперадзе? З тае прычыны, што там, у даўніне, — справы, здабыткі, страты, перамогі і паражэнні, каханне і здрады, радасць і слёзы нашых дзядоў і прадзедаў, нашы таямнічыя карані. Цікава ведаць, чаму мы нарадзіліся тут, а, прыкладам, не ў Гасконі, чаму рознімся ад суседзяў мовай і звычаямі, чаму ў нас іншыя песні, іншыя святыя і пакутнікі, іншыя героі. Будучыня прыходзіць сама, мінулае адкрываецца толькі цікаўнаму.*

У Менску ў выдавецтвах "Лекцыя" і "Бацькаўшчына" выйшла кніга Кастуся Тарасава "Гістарычнае падарожжа для дзяцей". Кніга багата ілюстраваная. Над ёй працавалі мастакі: Святлана РЫЖЫКАВА, Мікалай ЧАРКАСАЎ, Ганна ТАРАСАВА, Вольга БУГАЕНКА.

У кнізе 112 старонак. Наклад 3000 асобнікаў.




# ПАСТАНОВА

### Рэспубліканскае Рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
### Аб правядзенні Агульнабеларускай канферэнцыі "Закон аб мовах – вынікі і перспектывы"

21 лістапада 1999 г.

26 студзеня 1990 года Вярхоўным Саветам БССР быў прыняты "Закон аб мовах у Беларускай ССР", у адпаведнасці з якім распрацаваная Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моваў у Беларускай ССР. Праграма мела на мэце "клопат пра беларускую мову, якая павінна заняць сваё дастойнае месца ў жыцці беларускага народа".

Выкананне Закона і Праграмы было разлічана на 10 гадоў. Першыя гады прынеслі станоўчыя вынікі. Адбыўся сапраўдны зрух у адраджэнні роднай мовы, у выпраўленні "дэфармацыі нацыянальнай самасвядомасці".

Аднак у апошнія 5 гадоў сітуацыя рэзка пагоршылася. Сфера ўжывання беларускай мовы зноў пачала звужацца. Шэраг беларускіх дзіцячых садкоў ды школаў пераведзеныя на рускую мову навучання. Колькасць гадзінаў на вывучэнне беларускай мовы штогод памяншаецца. Беларуская мова выціскаецца з ужытку ў вышэйшае школе. У сувязі з усім вышэйпамянёным Рада ТБМ прапануе:

1. Правесці Агульнабеларускую навукова-практычную канферэнцыю "Закон аб мовах – вынікі і перспектывы" (люты 2000 г. ).

2. Для падрыхтоўкі і правядзення Канферэнцыі стварыць арганізацыйны камітэт у складзе: Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Леанід Лыч, Генадзь Цыхун, Людміла Дзіцэвіч, Сяржук Кручкоў, Алесь Гурыновіч, Сяргей Запрудскі, Вольга Кузьміч, Валер Палсцюк, Зміцер Санько, Вольга Іпатава, Людміла Майсеня, Міхась Яўневіч, Аляксей Пяткевіч, Міхась Булавацкі, Яраслаў Клімуць, Міхась Пастухоў, Алег Трусаў, Павел Знавец, Станіслаў Суднік, Іосіф Навумчык.

3. Даручыць аргкамітэту:

а) распрацаваць тэмы дакладаў і выступаў, а таксама вызначыць іх аўтараў. Прапанаваць выступоўцам прадставіць у аргкамітэт тэзісы сваіх дакладаў да 1 лютага 2000 г.

б) падрыхтаваць рэгламент і план правядзення Канферэнцыі, праекты выніковых дакументаў.

4. Прапанаваць мясцовым арганізацыям ТБМ выступіць з кароткімі паведамленнямі аб выніках выканання Закона аб мовах у рэгіёнах.

5. Запрасіць выступіць на Канферэнцыі прадстаўнікоў міністэрстваў адукацыі, культуры, унутраных справаў, абароны, а таксама пракуратуры і Канстытуцыйнага суда.

6. Даць абвестку аб маючай адбыцца Канферэнцыі ў сродкі масавай інфармацыі, запрасіць прэсу.

7. Мясцовым арганізацыям ТБМ правесці сходы суполак і паседжанні Радаў, на якіх абмеркаваць вынікі выканання ўладнымі структурамі Закона аб мовах у апошнія 5 гадоў, а таксама наладзіць пікеты ў абарону беларускай мовы.

### Шаноўнае спадарства!

Мы з вамі ўступілі ў чарговую падпісную кампанію. На гэты раз мы нарэшце патрапілі ў асноны каталог. Газета "Наша слова" размешчана на старонцы 23 "Каталога 2000, першае паўгоддзе, газеты і часопісы Рэспублікі Беларусь, выданні краін СНД, што распаўсюджваюцца па наўпроставых дамовах".

Праўда, гэты каталог выйшаў са значным спазненнем, а ў папярэднім, часовым каталогу нас не было. Тым не менш, сёння рэальная магчымасць падпісацца на "Наша слова" ёсць, хоць ёсць і цяжкасці. На некаторых вузлах сувязі асноўны каталог хаваюць, каб не страпалі, а выкладваюць часовыя. Таму смела патрабуйце, бо каталогі разасланы да кожнага вузла сувязі, а калі куды не дайшоў, то гэта клопат павінен быць не ваш, а паштавікоў.

Мы ізноў паднялі цану, але ад гэтых грошай да нас не дойдзе і паловы. З нас забяруць за арганізацыю падпіскі, за дастаўку, возьмуць падаткі. Разам з тым гэтая цана можа быць праз тры месяцы яшчэ павялічана, таму мэтазгодна падпісвацца на паўгода. Рознічная цана заўсёды будзе роўнай або большай за падпісную. Таму, калі вы хочаце нас чытаць, то выгадней падпісацца.

# Падпіска 2000

**Ф. СП - 1** **Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865**
(індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс **63865**
(індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 300000 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)





Вячаслаў Мілкоўскі

# Матчына мова

Думаю, марнае пытанне: ці ёсць на свеце мова, лепшая – больш ласкавая і мілая, чым матчына? Ёсць больш, так бы мовіць, музычная, як, напрыклад, італьянская ці іспанская. Маюцца больш распаўсюджаныя мовы. Ёсць таксама вартасці і ў іншых моў. Але ж пяшчотнейшай, па-свойску цяплейшай, чым родная, канешне, няма. І не можа быць такой, якая б больш адмыслова стасавалася іменна да цябе.

Калі чуеш родную мову, дык часта згадваеш маці. Нярэдка бачыш яе пасярод той даўняй хаты, у якой ты з'явіўся на свет і правёў першыя доўгія гады свайго жыцця, а цяпер там, можа, ужо не будзеш ніколі. Прыпамінаеш маці з яе клапатлівай увагай да цябе і ўсяго твайго, з яе пастаяннай дабрынёй. Усплываюць у памяці гады дзяцінства, юнацтва, якія назаўсёды засталіся для цябе значнымі, добрымі і пажаданымі, як і маці. І дзе б потым ні жыў, у якім асяродку ні круціўся, а цудоўныя словы з басаногага маленства ўжо не могуць пакінуць цябе. Калі ж у каго яны забываюцца ці выціскаюцца іншымі, дык гэта, думаю, тое самае, што забывацца пра маці, пра тое, як яна ўглядалася праз акенца, чакаючы дахаты стомленага цябе, як хавала на вячэру смачнейшы кавалачак толькі для цябе, як была заўсёды рада пагаманіць з табою.

Вымавіш такія спаконвечныя словы, што складаюць добрую частку душы, і потым, як пасля шчырай малітвы, уяўляецца тое, што калісь было вакол цябе ў самыя лепшыя гады твайго жыцця, як бы бачыш зноў перад сабою беларускае асяроддзе. Калі выпадкова ўсё ж завітаеш у якую-небудзь вёсачку, дык бывае, што яшчэ нікога не стрэў на вуліцы, ужо "чуеш", як тут усё "гаворыць на нашай мове". "Чуеш", бы музыку, што вось перад табою ніякі не овин, не закут, а хлеў, не изба, а хата ці дом, не крыльцо, а ганак... Чужыя словы, я гэта добра падмеціў, тут у беларускай вёсцы, зусім не "гучаць". Ніякі кляйнкінд, бэбі, бімбо ці ребенок не заменяць немаўлятку, таксама як пэрфум, дуфт або аромат не заменяць водар. Водар сенажаці! Водар мядовы! Сам прадмет, рэч як бы цураюцца іншаземных слоў. Душа тут адгукаецца на кожнае стрэчнае і "вызваньвае" ўсё іменна так, як гаварыў калісь ты сам, жывучы на гэтым улонні прыроды. А калі ж здараецца інакш, дык гэта здаецца пародыяй і ўжо зусім іншае ўзгадваецца пры гэтым: не маці ля печы з чапялёю, над калыскай малодшай сястрычкі ці ў дрывотніку, не ўласнае дзяцінства і не любыя сэрцу, аж да яго трымцення, краявіды, а нешта чужое, халоднае і абыякавае да цябе.

За сваё жыццё я так і не прызвычаўіся гаварыць паіншаму. Толькі ў вялікім гурце, пры "чужых" гавару на "языке", міжволі, неўзамет для сябе блытаючы яго з сваёй гаворкай. І нярэдка здзіўлюся з тых, хто лёгка шпарыць інакш, чым я, але ж ніколі не зайздрошчу. І ў сям'і гавару на той мове, што жыве ўва мне здаўна, якую ўзгадавала і зберагла для мяне маці.

Аднойчы чуў па радыё ў выкананні расейскага спевака Ёсіпа Кабзона нашу песню "Вы шуміце – шуміце нада мною, бярозы... " у перакладзе на расейскую. Паважаю гэтага артыста за яго голас, за ўменне прыпаднесці песню. Але на гэты раз я не быў задаволены. Не толькі тым, што ў нейкім сэнсе ганьбілі наш твор. Але і тым, што беларуская песня не "гучала" на іншай мове. Яна ператварылася ў нешта бяздушнае, як бы дубовае ці жалезнае. І я тады яшчэ раз упэўніўся: кожная мова прыгожая па-свойму і нельга без страт перакладаць з адной на другую, а тым больш песню. Дарэчы, больш ніколі не чуў памянёнага музычнага твору ў такім выкананні.

Заслугоўвае вялікай удзячнасці той, хто зберагае для нас нашу мову. Згубіць яе – дык век ужо не ведаць прыгажосці. Бо чужо – не вельмі прываблівае. А хто ж нам яе зберагае? Ёсць такія людзі. І іх вельмі многа. Гэта тыя, хто гаворыць толькі па-беларуску. Але гэта і тыя, хто калісь гаварыў на ёй, – нашы продкі. Яны некалі карысталіся толькі ёю, а на расейскай ніколі не гаварылі. Больш таго, як я памятаю, мая маці некалі сароміла расейскамоўнага "гарадскога гультая": "Не крыўляйся, гавары добра".

Не ведаю, як чужыя мацяркі, а мая маці скарыла нас, сваіх дзяцей, гаворкай, яшчэ малалеткамі, мы ўспрымалі яе мову як належную, але з гадамі, за нашым сталеннем, матчына мова неяк нечакана для нас стала вельмі цікавай і нават арыгінальнай. Разумею, гэта адбылося таму, што мы з гадамі ўсё больш прывыклі на людзях да расейскай мовы. А вось ў маці, якая жыла на вёсцы, такога быць не магло. Яна зберагла, можа і міжвольна, спрадвечны скарб беларусаў.

Так складвалася ў жыцці, што мая маці, Дземідовіч Аляксандра Мікітаўна, жыла ў розных кутках Беларусі: Уздзенскім (нарадзілася), Барысаўскім, Баранавіцкім, Нясвіжскім і іншых раёнах, дзе вучылася і потым працавала, куды ездзіла следам за мужам-службістам. Цяпер вось жыве ў Докшыцкім. Мабыць, таму яе моўны слоўнік, прыбраны ёю за шмат пераездаў, на мой погляд, вельмі багаты. Многія словы, праўда, ўжо рэдка сустракаюцца ў гаворках людзей, але маці часам вельмі дарэчы, трапна іх скарыстоўвае, хоць з гадамі таксама значна радзей. Гэтыя словы – як свежы струменьчык крынічнай цудвады...

Я даўно ўжо збіраю такія слоўцы, якія міжволі рассыпае маці (што і ўсім раю). З цягам часу назбіралася ўжо больш за паўтысячы такіх "пацеркаў", бо амаль штодня ў дні адпачынкаў у вёсцы занатоўваў слоўцадругое.

Дасылаю вам першую нізку. У слоўнічку пераважна даю тлумачэнні слоў, а ў цяжкіх выпадках падаю і прыклады, нават некалькі, каб больш трапна адзначыць іншае слова. Часам, калі гэта ўвогуле мне не паддаецца (я не філолаг), змяшчаю толькі прыклады ўжывання гэтай лексічнай адзінкі. Варта сказаць, што многія пададзеныя тут словы ў іншых мадыфікацыях (без прыстаўкі ці з іншымі прыстаўкамі і суфіксамі) не ўжываюцца.

АГОЎТАЦЦА - прывыкнуць, прызвычаіцца, уцягнуцца ў звычку, звыкнуцца, абабіцца. Крыху панудзіўся, потым жа агоўтаўся. Маладзіца была чысцюлячысцюляю, а вось агоўталася. Спачатку нічога не мог уцяміць, але ўсё-ткі агоўтаўся.

АДБЫЦЬ КАЛЕЙКУ – адбыць, адрабіць чаргу на якую-небудзь работу. Заўтра нам адбываць калейку – пасвіць каравэ. Б.

АСТАРКАВАТЫ – не вельмі стары, але ўжо і не малады.

АШЛЯГНУЦЬ – захварэць, аблегчы ад хваробы.

БЛЭНДЗІЦЬ – абы што гаварыць.

ВЫМЯРХАЦЦА – прагаладацца.

ВАРЫЦЬ – напружана думаць. Варым-варым цэлы дзень – і нічога не прыдумваецца.

ГАЙСАРЫЦЬ – бегаць, насіцца. Гэты ж жарты, цэлы дзень гайсарыць па вёсцы і прыпынку яму няма.

ГАР, ж.р. – гарэлка, самагонка, любы алкагольны напой.

ДАБІЦЦА СКУТКУ – упарадкаваць, раскласці належным чынам думкі, рэчы.

ЖАЛАХТАЦЬ, ЖАЛАБТАЦЬ – многа піць вадкасці.

ЗБАЁДАЦЬ – знянацку разбіць, знішчыць. Хоць бы ён слоік не збаёдаў, бо цяпер усё такое дарагое.

КАПНУЦЬ, КЕПНУЦЬ - зусім "дайсці", памерці ў дрэнных абставінах. Папаў у турму, стары дурань, там ён і капне (кепне).

КІРПІНЕЦЬ – чымсьці настойліва займацца доўгія гадзіны, нават на шкоду сабе. Над задачаю ўжо даўно кірпінее і ніяк не рэшыць.

ЛАГАНІЦЬ – многа бесперапынку гаварыць бессэнсоўна і звычна. У

МАГУЛІНКА - імгненне. Але ж каб на магулінку заснуў...

МАРСЯНУЦЬ – шпурнуць, штурхнуць. Не лезь да бацькі, ён заняты, бо як марсяне...

НАЗОЛА – назойлівы.

НАВАЛКА – навалачка.

НАТАНДЭТ – абы як. Ну, хто ж так робіць натандэт? Уцякай, дай я...

НЯМА ХЕНЦІ – нешта няма хенці ісці да яго.

ПАВАРОЎВАЦЦА – асцерагацца дрэннага дзеяння ці звычкі ў сваіх паводзінах. Нябось, цяпер будзе паваро́ўвацца так рабіць, бо ведае, што за гэта ўсыплюць.

ПАРАЗУМІЦЦА – параіцца.

РАЗВАРОТЛІВЫ – дабітны, усяго даб'ецца.

РАСХЛЯБЕСЦІЦЬ – расчыніць поўнасцю штонебудзь; раскрыць адзенне на сабе ў холад. Глядзі ж, не расхлябешчвай шалік, бо вельмі золка на дварэ.

СІМПАМПОНЧЫК – (ласкавы зварот да дзіцяці).

СЦЯХАЦЦА – жахацца ад страху.

ТАРНАВАЦЬ – цягнуць, несці, везці цяжкае, вялікае. Тарнуе на базар, там не прадасць – тарнуе назад.

ТАТКА – папка, бацька.

ТВАРЫЛА – лаз, люк у склеп, пограб.

УВАРЫЦЦА – упацець.

УГАЛЯЛЯШЧЫЦЬ – заплаціць занадта вялікую суму грошай. Ну, колькі ты угаляляшчыў за гэтае барахло?

УСКУРАЦЬ - паспець хутка ўсё зрабіць. Работы столькі, што не ўскурацць.

ФУГАНУЦЬ – далёка шпурнуць.

ХЛАМЯНУЦЬ – многа выпіць не раз. Б

ХУКАЦЬ – добра даглядаць, песціць. Няма мне калі на яго вельмі хукаць.

ЦУХМОЛІЦЬ – запэцкваць, зашмальцоўваць.

ЦЯВІНКА – далікатнае дзіця, да таго ж яшчэ і хваравітае.

ЧВЭРЫЦЬ – вытвараць.

ШАЛЯНЕЦ – свавольнік.

ШАМОЛЬ – ШАМОЛЬ – неўзамет, ціцком, употай пайсці адкуль-небудзь. Пабыў, пасядзеў ціха, шамольшамоль – і за дзверы.

*(Працяг будзе)*

## План работы

***грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" на 2000 год***

***Прыняты 21.11.1999 г. на паседжанні Рэспубліканскай рады***

| № п/п | Назва мерапрыемства | Тэрмін выканання | Адказны |
|---|---|---|---|
| 1. | Урачыстае паседжанне Рэспубліканскай Рады і прэс-канферэнцыя, прымеркаваная да 10-ых угодкаў Закона аб мовах | 26 студзеня | Сакр-ят, Арг. камісія |
| 2. | Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя, прымеркаваная да 10-ых угодкаў Закона аб мовах | люты | Сакр-ят, Аргкамітэт |
| 3. | Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя "Аб наступствах травеньскага 1995 года рэферэндума" | травень | Сакр-ят, Аркамітэт |
| 4. | Мітынгі і пікеты з патрабаваннем забеспячэння беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай | студзень, травень | Сак-ят, Менскія гар. і раён. рады ТБМ |
| 5. | "Круглыя сталы", канферэнцыі, семінары, сустрэчы з дзеячамі культуры ў гарадах і раённых цэнтрах Беларусі з нагоды 10-годдзя Закона аб мовах | студзень - травень | Сак-ят, раён. і гар. рады ТБМ |
| 6. | Распрацоўка дакументацыі (Статут, Палажэнне, вучэбныя планы) Беларускага нацыянальнага універсітэта | студзень-ліпень | Ініцыят. група |
| 7. | Работа па пашырэнні кола падпісантаў на "Наша слова" і іншыя беларускамоўныя газеты | на працягу года | Сакр-ят, першас. суполкі |
| 8. | Аднаўленне дзейнасці Гомельскай і Берасцейкай абласных арганізацый | на працягу года | Дзіцэвіч Л. Трусаў А. |
| 9. | Арганізацыя працы камісіяў ТБМ (праводзіць пасяджэнні 1 раз на месяц) | на працягу года | Старшыні камісіяў |
| 10. | Асветніцка-педагагічная праца з бацькамі, дзеці якіх пойдуць у дзіцячыя садкі і першыя класы ў 2000-2001 навучальным годзе | студзень-жнівень | Бацькоўскі камітэт, Адукац. камісія |
| 11. | Патрабаваць ад Міністэрства адукацыі адкрыцця з 1.09.2000 г. беларускамоўных груп, класаў у дзіцячых садках, школах ды ВНУ | студзень-жнівень | Адукац. камісія |
| 12. | Навукова-практычная канферэнцыя па праблемах тапанімікі ў Беларусі | кастрычнік | Тапанім. камісія |
| 13. | Зварот у Савет Міністраў, Міністэрствы культуры, адукацыі ды сувязі, Менгарвыканкам з прапановамі па ўшанаванні памяці ды святкаванні 160-ых угодкаў нараджэння (26 сакавіка) і 100-ых угодкаў смерці (28 красавіка) Ф. Багушэвіча | 21-26 лістапада 1999 г. | Сакр-ят |

# Віцебская абласная канферэнцыя ТБМ

28 лістапада ў Віцебску адбылася абласная канферэнцыя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны з удзелам Старшыні ТБМ Алега Трусава. У канферэнцыі прынялі ўдзел дэлегаты ад 14 раёнаў Віцебшчыны. Абрана Віцебская абласная рада ТБМ у складзе 14 чалавек начале з Іосіфам Навумчыкам. Больш падрабязная інфармацыя ў наступных нумарах.

*Уладзімір Арлоў*

# Адкуль наш род

*(Працяг)*

## Перамога Стэфана Баторыя

Праз некалькі гадоў вялікім князем літоўскім і каралём польскім быў абраны Стэфан Баторы. Гэта быў выдатны палітык і таленавіты палкаводзец. Ускладшы на галаву карону, ён даў урачыстую клятву вярнуць усе заваяваныя маскоўскімі царамі землі.



**Аблога Полацка Стэфанам Баторыем. Маскоўскія палоннікі.**

Войска Баторыя падыходзіла да горада па беразе Дзвіны. Каб запалохаць вялікакняжых воінаў, маскоўскія ваяводы пайшлі на новае крывавае злачынства. Палачанаў хапалі на вуліцах, забівалі, прывязвалі да бярвёнаў і пускалі ўніз па рацэ.

Аблога Полацка была неверагодна цяжкая. Штодня ліло з неба, і па войску паўзлі чуткі, што дождж пасылаюць нанятыя царом маскоўскія чараўнікі. У сваім шатрынамёце не мог знайсці сухога месца нават сам кароль. Абозы з харчам вязлі ў глыбачэзнай гразі, і ў каралеўскім стане запахла голадам. У Стэфана Баторыя былі воіны розных нацыянальнасцяў, але найбольш стойка трымаліся беларусы. Ім надавала сілы жаданне адпомсціць за сваю абрабаваную, заняволеную зямлю.

Вялікакняжыя вяшчальнікі-герольды абвясцілі Баторыеў указ: хто падпаліць замак так, каб яго ўжо не патушылі, атрымае каралеўскую шчодрую ўзнагароду. Дзесяткі ваяроў узброіліся вязкамі сухой лучыны і падаліся да полацкіх сценаў. Шчасце ўсміхнулася майстру-медніку, які апрача лучынаў цягнуў на плячах кацёл з гарачымі вуглямі. Ён падпаліў кутнюю вежу, адкуль агонь перакінуўся на сцены.

Галоўны царскі ваявода паведаміў, што ягоныя стральцы складуць зброю, калі Баторы захавае ўсім жыццё. Кароль паабяцаў адпусціць на волю ўсіх, хто захоча вярнуцца дахаты, і дазволіць жыць у Полацку тым, хто пажадае застацца. Іншыя маскоўскія ваяводы паспрабавалі ўзарваць замак, але самі ж іхнія стральцы не дазволілі гэтага.

31 жніўня 1579 года Полацк быў вызвалены.

Пасля вайны горад і ваколіцы так абязлюдзелі, што на адбудову ўмацаванняў бралі сялянаў за дзвесце вёрстаў, ажно з-пад Магілёва. Пасля нападу маскавітаў Полацк ужо ніколі не змог вярнуць сабе былога багацця і велічы.

**Пытанні і заданні:**

1. Што ты ведаеш пра маскоўскага цара Івана Грознага? Чаму яго называлі Жахлівым?
2. Раскажы пра паход цара Івана на Полацк?
3. Як абараняўся горад ад захопнікаў?
4. Што зрабілі царскія ваякі ў захопленым горадзе?
5. Хто перамог у бітве каля Іванска? Раскажы пра яе больш падрабязна.
6. Якую клятву даў вялікі князь і кароль Стэфан Баторы?
7. Як Полацк быў вызвалены ад маскоўскіх заваёўнікаў?

## Канцлер Леў Сапега

### Нашчадак старадаўняга роду

Цяпер мы пагаворым яшчэ пра аднаго з нашых славутых землякоў, які ўсё жыццё аддана служыў сваёй Бацькаўшчыне – Вялікаму княству Літоўскаму і здабыў за гэта пашану і ўдзячную памяць народа.

Яго звалі Леў Сапега.

Род князёў Сапегаў быў у Беларусі адным з самых старажытных, і даў ёй багата вядомых людзей. Але найбольш праславіў яго Леў Іванавіч Сапега, які нарадзіўся ў вёсцы Астроўна, што недалёка ад горада Бешанковічы на Віцебшчыне.

Калі хлопчыку споўнілася шэсць гадоў, бацькі завезлі яго ў Нясвіж. Тады там была найлепшая ў Беларусі школа, адчыненая князямі Радзівіламі. Якраз у той час вучоны і асветнік Сымон Будны, які працягваў справу Францішка Скарыны, выпусціў у Нясвіжскай друкарні беларускія кнігі. Па адной з іх княжыч Сапега і навучыўся чытаць на роднай мове.

У Нясвіжскім замку, дзе жыў хлопчык, працавала шмат запрошаных Радзівіламі вучоных, вядомых па ўсёй Еўропе. Тут яны пісалі свае творы, выкладалі ў школе, клапаціліся пра багацце радзівілаўскай бібліятэкі. Гэтыя людзі ведалі старажытныя і сучасныя мовы. Беручы з іх прыклад, Леў Сапега ўжо ў дзяцінстве апрача беларускай мовы выдатна ведаў лацінскую, грэцкую, нямецкую і польскую. Ледзь не кожны дзень здольны да навукі хлопчык праводзіў у замкавай бібліятэцы. Ён чытаў старадаўнія рукапісы і друкаваныя кнігі і хутка назапашваў веды.

У трынаццаць гадоў Леў Сапега ўжо паступіў у знакаміты Лейпцыгскі універсітэт у Нямеччыне. Там ён захоплена вывучваў гісторыю, філасофію і права – навуку пра законы, па якіх жывуць людзі. Ён ужо марыў пра тое, як будзе служыць роднай зямлі.

### На дзяржаўнай службе

З дапамогаю сваіх апекуноў – Радзівілаў – Сапега быў прыняты на службу да караля і вялікага князя Стэфана






Баторыя. Гаспадару дзяржавы спадабаўся адукаваны юнак, які старанна выконваў усе даручэнні. Сапега меў выдатную памяць і бліскуча ведаў законы Вялікага княства. Ён быў заўсёды ветлівы, сціплы і сумленны. Гледзячы на яго, кароль гаварыў, што Леў Сапега будзе дзяржаўным чалавекам. І ён не памыліўся.

У той час, як вы памятаеце, ішла вайна з Масковіяй, што хацела захапіць беларускія землі. Сапега за свае грошы, якія атрымаў ад бацькі ў спадчыну, стварыў і ўзброіў цэлы полк, а сам стаў яго камандзірам. За мужнасць у змаганні з ворагам кароль прызначыў Сапегу на адказную пасаду сакратара Вялікага княства. З гэтага часу ён змог цалкам заняцца дзяржаўнымі клопатамі.

З поўдня нашай Бацькаўшчыне пагражалі туркі і крымскія татары. Каб адбіцца ад іх, трэба было падпісаць мір з іншым ворагам – Масковіяй. Леў Сапега выправіўся з пасольствам да расейскага цара і падпісаў мірную дамову на дзесяць гадоў, а таксама вызваліў з царскага палону 900 беларусаў.

Таленавіты палітык і дыпламат атрымліваў усё новыя і больш высокія пасады. Больш за трыццаць гадоў ён быў вялікім канцлерам, гэта значыць, другім чалавекам у дзяржаве пасля самога вялікага князя.

### Статут Вялікага княства

Сапега добра разумеў, што краіна магутная тады, калі жыве па мудрых і строгіх законах. Пад яго кіраўніцтвам быў напісаны і ў 1588 годзе прыняты новы Статут Вялікага княства Літоўскага – кніга, дзе былі сабраныя ўсе законы нашай дзяржавы.

Статут умацоўваў самастойнасць Княства. Ён забараняў іншаземцам купляць тут зямлю. Закон бараніў правы людзей розных рэлігій. Знатны чалавек не меў права беспакарана забіць простага селяніна. За злачынствы супроць жанчын закон караў больш сурова. Кожны вольны чалавек мог без перашкоды выехаць за мяжу.

Ужо ў той далёкі час нашы продкі клапаціліся пра ахову прыроды і яе багаццяў. У Статуце пералічваліся каштоўныя звяры і птушкі, якія знаходзіліся пад абаронаю дзяржавы. Забаранялася паляваць на зубрыц, калі ў іх былі малыя дзеці. Той, хто разбурыць сакалінае ці лебядзінае гняздо або заб'е бабра, мусіў заплаціць столькі грошай, колькі каштавалі два ці нават тры валы або кані.

Статут быў напісаны на беларускай мове. закон яшчэ раз пацвярджаў, што гэтая мова – дзяржаўная. На ёй складалі ўрадвыя дакументы. Выступалі на сойме дэпутаты. За свае грошы Леў Сапега выдаў Статут у Віленскай друкарні. Адтуль яго развезлі па ўсім Княстве, каб кніга законаў заўсёды знаходзілася пад рукой у таго, каму яна спатрэбіцца. У прадмове да Статута Сапега з гонарам зазначыў: " Не чужой якой-небудзь моваю, але сваёй уласнай правы свае пісаныя маем і на любую крыўду адпор сваімі законамі дадзім".

Статут Вялікага княства Літоўскага быў найлепшым для таго часу зводам законаў у Еўропе. Яго перакладалі і выдавалі ў іншых краінах. Па запісаных у Статуце законах беларусы жылі некалькі стагоддзяў.



Цікава, што ў старадаўніх беларускіх законах, а таксама ў тагачасных летапісах часта сустракаюцца словы "спадар" і "спадарыня". Значыцца, яны не прыдуманыя нядаўна, як лічаць некаторыя, а існавалі ў нашай мове здаўна.

# Давайце спяваць па-беларуску

## У гушчарах

Словы Н. Арсеньневай




У гушчарах затканых імглою,
Шэрым змрокам на золку- зару
Ахвяруем табе мы сабою
Кожны дзень, кожны час, Беларусь,
Ахвяруем табе мы сабою
Кожны дзень, кожны час, Беларусь.

І няма ў сэрцы жалю і страху,
Мы адвагай юнацкай гарым
Не маскаль- бальшавік і не ляхі,
Толькі ты нас вядзеш да зары
Не маскаль-бальшавік і не ляхі,
Толькі ты нас вядзеш да зары.

Марай дым над галовамі тае,
Вецер дыхае мятай, быллём,
Беларусь, Беларусь дарагая,
За цябе, за цябе мы ідзём.
Беларусь, Беларусь залатая,
За цябе, за цябе мы ідзём.

# Цеплыня кожнага радка

***Чатыры бярозанькі***
***Я пасадзіў,***
***Растуць каля вокан яны***
***Дружна наўздзіў.***
***Бярозанька дружбы,***
***Бярозка кахання,***
***Бярозка змяркання***
***І развітання...***

У гэтых радках яго жыццё, спосаб яго светаўспрымання. Ён так адчуваў свет, дапаўняючы яго духоўнай сілай свайго разумення.

Віктар Мікалаевіч Шымук пражыў нядоўгае жыццё. Было ад роду яму ўсяго толькі 65.

Ёсць паэты гучныя, якія, урываюцца ў паэзію няўрымсліва і смела. Ён жа да апошняга часу быў жаўруком, шчодрым на дабрыню і пяшчоту свайго слова.

Трынаццацігадовым хлапчуком упершыню асмеліўся паслаць свае вершы ў дзіцячую газету "Піянер Беларусі". І яны ўбачылі свет. Віктар хаваў гэты нумар усё жыццё як самы дарагі напамін.

Потым былі кніжкі. Першая –паэма пра юнага героя Колю Гойшыка "Каля Броннай гары" з'явілася ў 1960 годзе. Крыху пазней – зборнікі вершаў для дзяцей "Мы вясне дапамагалі" і "Дочкі сіняга Нёмана", кнігі лірыкі "Свяцязанскія хвалі", "Святло красавіцкіх бяроз", "Спелы жнівень", "Марылі пра шчасце хлапчукі" і іншыя.

Чалавечая дабрыня, сумленнасць, справядлівасць – асноўныя тэмы яго вершаў. Чуласць да людзей простых заўсёды жыла ў яго сэрцы. У кніжках нарысаў "Добрай раніцы, поле", "Сын каваля", "Пасля працы рупнай" і іншых знайшлі месца героі-працоўнікі, якія кожны дзень пасылалі на наш стол духмяныя боханы хлеба.

Лірызм твораў паэта прыцягнуў увагу кампазітараў В.Іванова, І.Кузняцова, М.Пятрэнкі, К.Цесакова, П.Шыдлоўскага, Н. Наско, П.Русакова, якія напісалі шмат песень на яго вершы.

Быў ён тонкім гумарыстам і добрым апавядальнікам. Заўзята іграў на гармоніку і сам цудоўна спяваў. У яго душы жылі трапяткія ноты і лірычныя напевы. У адным з вершаў ён піша:

***Чалавечая душа –***
***Праменьчык сонца.***
***Чалавечая душа –***
***Струмень крыніцы.***
***Да святла яна заўсёды***
***Цягнецца бясконца***
***І да чысціні***
***Крынічнае вадзіцы.***
***Чалавечая душа –***
***Нібыта струны.***
***Іх крануць не кожны можа,***
***Дый не трэба.***
***Чалавечая душа –***
***Як зелень руні,***
***Што зярняткам вырасце,***
***А потым стане хлебам.***

***Не вярэдзьце***
***Чалевечую душу бясконца.***
***Хай яна парадуецца,***
***Пажурыцца.***
***Чалавечая душа –***
***Праменьчык сонца***
***І струменьчык светлай,***
***Чыстае крыніцы.***

Пахаваны паэт на зямлі роднай Дзятлаўшчыны, што на Гродзеншчыне. Такім было яго апошняе жаданне. Мусіць, бачыў ён яшчэ пры жыцці завершаную жыццёвую сцежку там, дзе і нарадзіўся.

Светлая душа яго будзе пасылаць чыстыя праменьчыкі цеплыні і дабра ўсім, хто яго помніць.

***Марыя Шымук.***



Уласныя музычныя інструменты дэманструюць на розных святах і кірмашах дзяўчынкі з дзіцячай студыі "Свісцёлкі" Крычаўскага цэнтра культуры. Вырабляюць яны іх са звычайнай гліны,а дапамагае юным майстрыхам іх фантазія. Фота Валерыя Бысава БелТА.

# Лешак Бэднарчук

## *Зямляк, якім трэба ганарыцца...*

Даследуючы гісторыю нарацкага краю, у які раз пераконваюся ў тым, наколькі слаба мы ведаем пра нашыя мясціны. Не ведаем мы падчас і пра землякоў, якія па праву павінны ўвайсці ў гістарычны летапіс Мядзельскага раёна.

Сёння гутарка будзе весціся пра прафесара мовазнаўства Лешака Бэднарчука, які нарадзіўся ў мястэчку Кабыльнікі ці, як былое мястэчка называец-ца зараз, вёсцы Нарач. Так сталася, што ў 1943 г. спадару Лешаку давялося выехаць з родных мясцін. Але ўспаміны пра нарацкі край не пакідаюць прафесара. Досыць часта ён прыязджае з далёкага Кракава, каб адведаць знаёмых і землякоў. Апошні раз спадар Лешак прыязджаў у ліпені. Дарэчы, у бліжэйшай будучыні ён плануе прыехаць у Менск, каб прыняць удзел у рабоце Другога з'езду беларусістаў.

Для большага знаёмства з прафесарам прывяду ўрывак з яго навуковай спадчыны, што друкаваўся ў кнізе Leszek Bednarczuk. "Jenzyki Wielkiego Ksestwa Litewskiego na tle porownawczym. Wilno". 1993 (зборнік быў выдадзены Польскім універсітэтам у Вільні абмежаваным накладам і прызначаўся, галоўным чынам, для студэнтаў). А ў перакладзе на беларускую мову яго навуковая работа, урывак з якой прыводзіцца ніжэй, друкавалася ў наступным выданні: "Паланістыка. Зборнік навуковых артыкулаў па актуальных пытаннях польскай мовы (рэд. А.К. Кікілевіч, Менск, 1998).

**"Аб'ём і характар балтыйскай анамастыкі Беларусі.**

Балтыйскія элементы прадстаўлены ў беларускай гідраніміі і антрапаніміі на розных абшарах. З прац К.Бугі, Я.Развадоўскага і найноўшых даследаванняў вынікае, што гідронімы балтыйскага паходжання складаюць асноўную частку гідраніміі Беларусі, выходзячы за яе межы. Уласна гаворачы, праблемай з'яўляецца іх этналінгвістычная ідэнтыфікацыя, прынцыпы фанетычнай субстытуцыі і сувязь з асобнымі балтыйскімі арэаламі. Ніводнае з гэтых пытанняў не дачакалася яшчэ ўласцівага адказу, выказваюцца толькі сцверджанні пра тое, што лягчэй за ўсё было б растлумачыць іх пры дапамозе літоўскай мовы.



Лешак Бэднарчук

Найбольшае згушчэнне балтыйскіх тапонімаў і тапанімічных фармантаў мы назіраем на літоўскім пагранiччы і на поўначы (Полацк, Віцебск). У паўночна-заходнім поясе звязваюцца з суседнімі гаворкамі, усходнеаўкштайцкімі і дзукоўскімі.На падставе распаўсюджання суфікса *–ішкі* Я.Сафарэвіч вызначыў усходнюю граніцу літоўскай мовы ў XIУ-XУ ст.ст., г.зн. што граніца ўсталявалася, відаць, падчас прыняцця хрысціянства, таму што на тым самым абшары каталіцызм пераважае над праваслаўем, а таксама гэта граніца супадае з ука-занай В.Галубовічам граніцай літоўскай каланізацыі ў дагістарычныя часы. Гэта лінія праходзіць ад Браслава праз Нарач, Свір, уздоўж Нёманскай Бярэзіны, ад яе вусця па праваму берагу Нёмана да Чорнай Ганчы, а далей уздоўж левага берага. На паўднёвы ўсход ад лініі Сафарэвіча асобныя балтыйскія элементы праяўляюцца ва ўсім басейне Дзвіны і Нёмана. Некаторыя з іх аднак, як заўважаюць М. Бірыла і А. Ванагас, могуць быць вынікам больш позняй літоўскай каланізацыі з часоў існавання Вялікага княства.

Гэта тычыцца ўласна антрапаніміі, як, напрыклад, у месцы Абольцы каля Віцебска, дзе Я. Ахманскі на падставе дакументаў XIУ-XУ стст. адкрыў вялікую колькасць імён, часткова захаваных (у выглядзе прозвішчаў) і да сённяшняга дня, што пацвердзілі тэрытарыяльныя даследаванні А. Непакупнага".

***Прэўрацкі В.В.***
***(гістфак БДУ).***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 29. 11. 99 г.
Наклад 3400 асобнікаў. Замова № 3059
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 60 000 руб., 3 мес.- 180 000 руб.
***Кошт у розніцу:*** 20 000 руб.